# Дняпроўская СТРОМА




№ 8 верасень 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


САЮЗ АФІЦЫЙНА

## Новыя сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў

25 верасня прайшло чарговае паседжанне Рады Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Са справаздачай аб дзейнасці арганізацыі за перыяд паміж радамі выступіў старшыня СБП Барыс Пятровіч.

Адным з галоўных пытанняў на парадку дня было прыняцце ў шэрагі арганізацыі кандыдатаў, рэкамендаваных Прыёмнай Камісіяй. У выніку рашэннем Рады да ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" далучыліся дзевяць новых сяброў, у тым ліку і прадстаўнікі Магілёўшчыны:



**БАРЫСІК Таццяна Іванаўна.** Нарадзілася 18 жніўня 1977 года ў Магілёве. Скончыла Магілёўскі ўніверсітэт імя А.Куляшова. Працавала сацыяльным педагогам у школе пас.Леніна Бабруйскага раёна і ў школе в.Палыкавічы Магілеўскага раёна. Зараз працуе на заводзе "Гарвадаканал" у Магілёве.

Супрацоўнічала ў бабруйскіх газетах "Рабочы" і "Трыбуна працы", друкавалася ў шматлікіх выданнях, у тым ліку ў газеце "Наша ніва", часопісах "Першацвет", "ARCHE", "Абажур".

Выдала кнігу паэзіі "Гаркнуў бліскучы мацюгальнік".



**САНАЦЕНКА Анатоль Казіміравіч.** Нарадзіўся 2 кастрычніка 1969 г. у Бабруйску. З 1992 года - у журналістыцы. Працаваў у бабруйскіх газетах "Сёння", "Тэлеграф", "Інфарм-цэнтр", "Бабруйскі кур'ер", супрацоўнічаў з газетамі "Комсомольская правда" у Беларусі", "Московский комсомолец" у Беларусі", "Аргументы и факты" у Беларусі". Зараз - выдавец і галоўны рэдактар газеты «Бабруйскі кур'ер».

Як паэт, празаік і драматург публікаваўся ў мясцовым, рэспубліканскім, а таксама ў расійскім друку. Выдаў кнігі паэзіі "Пранізлівае быццё" і "Праклятыя вершы".

*Віншуем!*



## Жыве Беларусь!

*Анатоль САНАЦЕНКА*

*Прысвячаецца Яўгену Васьковічу*

Жыве Беларусь – гэта кліч нашых продкаў!
Жыве Беларусь – гэта голас вякоў!
Жыве Беларусь – вымаўляць так салодка!
Жыве Беларусь – паўтараю ізноў!

Касьцеша*, Яліта* і герб наш Пагоня,
Збірайцеся разам пад сцягам адным!
На бітву нясуць нас гарачыя коні –
Мы чорных чужынцаў развеем у дым!..

Касцюшка, Кастусь! Я пад вашы харугвы
Паўстану, як той старадаўні жаўнер.
Меч праўды – ў рукі, меч волі – ў рукі!
Што будзе, то будзе – вось тут і цяпер!

У думках малюся і Крыж уздымаю:
Няхай беражэ Бог Айчыну заўжды –
Каб цемра не засціла роднага краю,
Каб тут не спяваліся песні бяды,
Каб ворагі-каты ніколі, ніколі
Не здолелі трапіць на землі твае!

Пад зоркаю праўды,
пад зоркаю волі,
Жыве Беларусь!
Назаўседы – жыве!



* *Касьцеша - герб шляхецкага роду Статкевічаў, да якога належыць А.Санаценка.*

* *Яліта - герб шляхецкага роду Васькевічаў (Васьковічаў).*

*Таццяна БАРЫСІК*

## Кропелькі

*Апавяданне*

*Маладым змагарам за ўраджай прысвячаецца*

– Ну, унучка, адпачыла з дарогі, то падымайся, трэба жукоў пырскаць, – нечакана пабудзіў мяне бабулін голас.

Утаропіўшыся, гляджу на сонечны праменьчык, што прабіваецца праз шчыліну аканіцы, і прыгадваю: маці сёння, выпраўляючы мяне ў вёску, казала тое самое.

Упершыню ў сваім шаснаццацігадовым жыцці жукоў труціць – справа адказная! Падхопліваюся, апранаю спартовыя нагавіцы, латаную дзедаву кашулю, павязваю хустку жоўтую з сіняватымі плямамі ад чарніцаў. Узуваю ногі ў бацькавы гумовікі сорак другога памеру. Цяжка на нагах валачыць. Але нічога не зробіш, іншага немашака. Так, пальчаткі, атрута, хаця б нічога не забыцца.

На сотках мяне чакае знаёмая цынкавая выварка з вадою. Аб край разбіваю ампулы. Цяпер яны плывуць па вадзе, нібы самалёцікі ў небе, пакідаючы за сабой бялюткія сляды. Перамешваю ваду трэскаю, і ў выварцы ўтвараецца маленечкі атрутны вір.

Іржавая даёнка налітая да паловы – на тры баразны павінна хапіць. Адшукваю леташнюю, аблытаную павуццём бярозавую мяцёлку і, куляючыся качанём, крочу па роднай зямельцы. Клятая даёнка рэжа руку, часам вадкасць булькае і пляскае мне на боты. Рухамі старажытнага сейбіта з падручніка гісторыі я раскідваю па наваколлі пырскі казюрчынай смерці. Усё макрэйшымі робяцца картаплянік ды калашыны нагавіцаў. Вясёлкавым ззяннем пераліваюцца на зялёных лісціках атрутныя кроплі. Мае ворагі – чырвоныя, паласатыя – спелымі ягадкамі падаюць долу.

От, бляха! У вока трапіла гадасць гэтая! Пячэ няможна! Хуценька лячу дахаты. Ратуюся халоднай вадзіцай. На стале ляжаць сонечныя акуляры. Ну ўсё, у акулярах мне нічога не страшна. Зараз я вам, паганцы, пакажу! Ізноў да змагання! Ня можа таго быць, каб я не пераматла...

На дзесятай баразне ўжо не куляюся, а цягнуся. Ледзьве падымаю ногі й даёнку. Боты ўдвая цяжэйшымі зрабіліся, спіну ломіць, рука сама сабой калоціцца дробненька. Два камары адначасова за шыю і лоб укусілі. Не пачухаешся аніяк, на пальчатках атруты ўсё болей.

Астатнія баразны амаль прапаўзаю. На дварэ звечарэла. Хмара невядома адкуль насунулася. Хаця б не дождж, а то ўся работа кату пад хвост...

Рэшткі вадкасці выліваю на калгаснае жыта, так дарослыя заўсёды рабілі, каб нашыя куры не патруціліся. Гонарам поўніцца душа. Няхай сабе ногі, рукі мокрыя, брудныя, але затое зрабіла, ня горай як у людзей. Не з'ядуць жукі бабінай картоплі.

Тэпаю на вуліцу,сядаю на лаўку.

– Ты што, малая, ідзі мыцца! Скідай адзёжу етую к такой матары. І сто грамаў выпей. А то назаўтра не падымешся. Мы вунака праз етае пырсканне



два дні качаліся і рыгалі! – вучыць жыццю суседка.

Мыюся на двары вадою з ночваў. Гаючыя струменьчыкі бягуць па стомленых нагах, плячах. Укруціўшыся ў вялізны мультановы халат, увальваюся ў хату. На гадзінніку палова на адзінаццатую.

– А маё ты дзіця, намучылася, – гэта ўжо бабуля спачувае.

Сядаю да стала. Наліваю чарку, каб уранні здаровенькай прачнуцца. Заядаю разлезлымі макаронамі. Над вухам спуджаная муха бзыкае. Шчокі расчырванеліся. Па тэлевізары кіно пра гішпанскую прынцэсу паказваюць. Знадворку, вось паскудства, дождж пачынаецца. Па даху, па слівах ужо лупіць.

Марныя пакуты мае. Навошта рвалася дурніца! Каб яны павыдахлі ўсе – і жукі, і прынцэсы! Заплакаць не маю моцы, млявасць і сон апаноўваюць мяне. Шэры начны матылёк упарта б'ецца аб шыбу. На дне чаркі высыхаюць рэшткі самагону, апошнія кроплі майго дзяцінства.



**28** *жніўня 2012 г. сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Генадзь Бураўкін адзначыў свой семдзясят шосты дзень нараджэння.*

**5 верасня Магілёўская гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы зладзіла вечарыну, прысвечаную гэтаму найвядомаму беларускаму паэту. Неюбілейная дата, але постаць Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна заслугоўвае таго, каб пра яго ўспамінаць як найчасцей. Паўтара дзясятка магілёўцаў сабраліся на Замчышчы каля помніка "Машэка". Але неба нахмарылася, пакрапаў дождж, і вырашылі скарыстаць запасны варыянт – правялі вечарыну ў кавярні "Пекін", аздобіўшы запланаванае яшчэ чаем, марозівам, сокамі ды іншымі прысмакамі. Гаварылі пра жыццё Паэта, далёкае і сённяшняе, чыталі яго вершы, слухалі запісы папулярных песень "Завіруха", "Конь незацугляны", "Я цябе цалаваў". Закончылі вечарыну "Калыханкай", якую многія помнілі з дзяцінства і падпявалі.** *(Інфармацыя МГА ТБМ).*

***19 чэрвеня 2010 г. Святкаванне дня нараджэння Васіля Быкава на яго радзіме ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна на Віцебскай вобласці***






**Сустрэча паэтаў: Генадзь Бураўкін і Фелікс Шкірманкоў**




**Народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, сястра В.Быкава Валянціна Быкава, Генадзь Бураўкін і Іосіф Навумчык з вялікай цікавасцю слухаюць успаміны Фелікса Шкірманкова.**
*Фотаздымкі Міколы Яцкова.*

# Нарадзіліся ў верасні ...



**Споўнілася 115 год Міхасю Георгіевічу ДУБРОЎСКАМУ - беларускаму пісьменніку, кандыдату філалагічных навук, члену Саюза пісьменнікаў Беларусі (1959 г.).**

**Нарадзіўся 22 верасня 1897 года ў в. Казельская Буда Чэрыкаўскага павета (зараз Краснапольскі раён). У 1925 г. скончыў творчае аддзяленне Вышэйшага літаратурна - мастацкага інстытута імя В. Брусава ў Маскве і быў накіраваны на працу ў Мінск – навуковым супрацоўнікам літаратурнай камісіі Інбелкульта. Скончыў аспірантуру пры Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М.Г.Чарнышэўскага. З 1945 г. - старшы выкладчык Брэсцкага настаўніцкага інстытута, у 1949 - 1950 г.г. - літаратурнага інстытута імя М.Горкага, у 1950 - 1957г.г. - Гродзенскага педінстытута імя Я.Купалы.**

**Выступаў у перыядычным друку з вершамі, п'есамі, артыкуламі з 1918 г. У 1926 г. у яго перакладзе на беларускую мову вышла асобным выданнем паэма О.Уайльда "Балада Рэдэнскай турмы". Адзін з аўтараў (з П.Шастаковым) п'есы-лібрэта "Уласнай рукой", якая была пастаўлена у 1919 г.**

**Памёр 11.09.1983 г.**



**Споўнілася 70 год Рыгору (Ягору) Мінавічу ЯЎСЕЕВУ - паэту, крытыку, перакладчыку.**

**Нарадзіўся 10 верасня 1942 года ў в. Барок Бялыніцкага раёна ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Мала-Бялевіцкай СШ працаваў у калгасе. У 1969 г. закончыў Магілёўскі педінстытут, у 1973 г. – Мінскую партыйную школу. Працаваў у Бялыніцкай раённай газеце "Зара камунізму", часопісе "Полымя", Дзяржвыдавецтве БССР, выдавецтве "Мастацкая літаратура".**

**Першыя творы (гумарыстычныя вершы і байкі) з'явіліся ў 1960 г. у раённай газеце "Зара камунізму". З 1961 г. друкаваўся ў "Магілёўскай праўдзе", рэспубліканскім перыядычным друку. Пісаў сатырычныя і гумарыстычныя вершы, байкі, вершаваныя фельетоны, якія змяшчаліся ў "Вожыку". Аўтар зборнікаў "Верабей пад воблакам", "Гатовая рэпка", "Вялікая лыжка", "Мох на бярвенні, "Шаравая бліскавіца". У сваіх творах выкрываў лайдакоў, п'яніц, раскрадальнікаў народнага дабра, хабарнікаў, аматараў пажывіцца за чужы кошт.**

**У 1978 г. выйшаў яго дыялектны слоўнік гаворак жыхароў Бялыніцкага раёна *"Маці казала так"*. Для дзяцей напісаў кнігі *"Нашы хлопцы рыбакі", "Дзядзькавы памочнікі"*. Перакладаў на беларускую мову вершы рускіх і украінскіх паэтаў. Памёр 26 снежня 2004 г.**

- **10 верасня 1929 года нарадзіўся Аркадзь Лявонцьевіч КАНДРУСЕВІЧ – празаік, мастак.**
- **14 верасня 1938 года ў в.Клеявічы Касцюковіцкага раёна нарадзіўся Леанід Кірэевіч ЛЕВАНОВІЧ (Лявонаў) – празаік, драматург, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І.Мележа.**
- **20 верасня 1919 года ў в.Кадзіна Магілёўскага раёна нарадзіўся Якуб (Якаў) Кірылавіч УСІКАЎ – літаратуразнавец, крытык, кавалер ордэнаў Айчыннай вайны і Чырвонай Зоркі.**
- **21 верасня 1918 года ў в.Клетнае Глускага раёна нарадзіўся Фёдар Міхайлавіч ЯНКОЎСКІ – лінгвіст, празаік, доктар філалагічных навук, прафесар, Заслужаны дзеяч навукі БССР.**
- **26 верасня 1619 года ў Магілеве нарадзіўся Ігнацій ІЯЎЛЕВІЧ – асветнік, пісьменнік, грамадскі і царкоўны дзеяч, архімандрыт Полацкага Богаяўленскага манастыра.**

*( Заканчэнне на с.4 )*

«Новы Час» ◂ «Літаратурная Беларусь» ◂ № 9 (73) 28 верасня 2012 г.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

**Выпуск №9 (73) (верасень)**
www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»

## ПІСЬМЕННІКІ Ў ГВАРДЗЕЙЦАЎ

**У 188-й гвардзейскай Ноўгарадскай ордэнаў Суворава і Хмяльніцкага інжынерна-сапёрнай брыгадзе, што месціцца ў Магілёве, адбылася літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

Вечарыну арганізавала Магілёўская гарадская бібліятэка. Прысутныя ўважліва агледзелі кніжную выставу, праслухалі прапанаваную кампазіцыю пра жыццёвыя шляхі беларускіх песняроў, а таксама вершы ў выкананні артыстаў народнага тэатра Палаца культуры вобласці і песні на вершы Я. Купалы ў выкананні кампазітара Міколы Яцкова.

Заключным акордам вечарыны стала выступленне паэта Эдуарда Акуліна. Знаходзячыся сярод вайскоўцаў, Э. Акулін распавёў пра асаблівасці лёсу сваіх сваякоў, якія прайшлі праз полымя Афганістана, і прачытаў сваю баладу, прысвечаную афганскім падзеям. А потым загучалі звонкія струны акулінскай гітары, і прысутныя з задавальненнем паслухалі некалькі песен, у тым ліку і знакамітую «Янка Купала ідзе...».

**Ул. інф.**



## У МАГІЛЁЎСКАЙ ФІЛІІ

**2 верасня 2012 г. адбылося чарговае пасяджэнне Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**



**Выступае Ф. Шкірманкоў**

Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб тым, што было зроблена за мінулыя чатыры месяцы. Абмяркоўвалася дзейнасць літаратурна-інфармацыйнага выдання аддзялення — бюлетэня «Дняпроўская строма», выказваліся пажаданні па яго далейшым развіцці.

Прысутныя заслухалі выступленне Тацціяны Барысік, якае мае жаданне ўступіць у шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пасля абмеркавання яе творчасці аднагалосна рэкамендавалі пісьменніцу для ўступлення ў СБП.

У пасяджэнні прыняў удзел намеснік старшыні СБП Эдуард Акулін.

**Прэсавая служба СБП**

# Пра нас пішуць...

У вераснёўскім нумары "Літаратурнай Беларусі" ( № 9 ) змешчана інфармацыя пра падзеі літаратурнага жыцця Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Акрамя таго, цалкам паласа выдання аддадзена магілёўскім аўтарам – надрукаваны аповед Міхася Булавацкага "Ноч свабоды" і нізка вершаў Сяргея Украінкі "Камень і каса". З ласкавай згоды рэдакцыі "Літаратурнай Беларусі" мы перадрукоўваем на сваіх старонках гэтыя публікацыі, каб з дапамогай "Дняпроўскай стромы" творы магілёўцаў знайшлі больш распаўсюд сярод удзячных чытачоў.



18 ▸ № 37 (309) ▸ 28 верасня 2012 г. № 9 (73) ▸ «Літаратурная Беларусь» ▸ «Новы Час»



АПОВЕД

# НОЧ СВАБОДЫ

Міхась БУЛАВАЦКІ

Уявіце сабе чалавека ў койцы, загіпсаванага ад пояса да пяткі на адной назе і да калена на другой. У гэтай койцы праходзіць усё ягонае жыццё. Сюды прыносяць ежу, прыносяць сякія-такія забаўлянкі, прыносяць судно ці «вутку» для натуральных патрэбаў і нават падкладваюць іх куды трэба, каб ён гэтыя патрэбы змог задаволіць. Было мне тады восем гадоў, і ляжаў так я ўжо тры гады, і ляжаць мне, як пазней выявілася, наканавана было яшчэ чатыры… Гіпс, натуральна, быў не заўсёды. Яго праз тры месяцы зразалі, каб нага магла адпачыць і адрасці, але праз пэўны час загіпсоўвалі зноў. Гэтыя прамежкі без гіпсу былі ўжо глытком свабоды, якую я скарыстоўваў мабыць занадта актыўна. Бо каму ў такім узросце не хочацца рухацца, — ну хаця б вось перакульнуцца ў койцы! І ўрачы досыць хутка апраналі маю нагу ў новую гіпсавую нагавіцу.

Такіх, як я, у палаце Чачэвіцкай дзіцячай косцева-сухотнай санаторыі было каля двух дзясяткаў — цэлы клас. Не мы хадзілі ў школу, а настаўнікі прыходзілі да нас і вучылі нас чытаць і пісаць алоўкам у сшытку, прыкладзеным да кавалка фанеры (аловак знізу, папера з фанеркай зверху). Настаўнікі, медсёстры, нянечкі з'яўляліся ў нас нібыта з нейкага іншага свету, зайздроснага сваёй недасягальнасцю, і туды ж зніkalі. А мы заставаліся ў межах чатырох сцен, знізу да паловы зялёных, зверху белых, белай столі і падлогі, колеру якой ужо й не помню. Койкі былі на катках, дзякуючы якім нас дастаўлялі на працэдуры, а летам з усіх палат выкочвалі на дзень на адкрытую прасторную веранду пад навесам. Так ішло наша жыццё з сваімі маленькімі крыўдамі і радасцямі, з праявамі дзіцячай гарэзлівасці і свавольства, за якое магло наступіць і пакаранне: свавольніка выкочвалі ў калідор і пакідалі там пасумаваць нейкі час аднаго.

Аднойчы, ужо даволі познім часам, калі выхавацелька павінна была паклaсці нас спаць і сысці дадому, нейкая гарэза напала на мяне. Я з кімсьці гучна гаманіў, смяяўся, выхавацелька спрабавала мяне супакоіць — і ўрэшце прыгразіла выкаціць мяне на ноч у самы дальні і цёмны куток калідора. Каб прадухіліць такое, я звязаў ручніком сваю койку з койкай суседа і працягваў свавольнічаць. Разгневаная выхавацелька пачала тузаць маю койку, але яна не паддавалася, і гэта весяліла мяне яшчэ больш. Урэшце яна разабралася, у чым справа, і, яшчэ больш раззлаваная, рэзкімі рыўкамі развязала вузел ручніка і пакаціла маю койку ў калідор. Потым, мабыць, вырашыла, што калідор — слабое пакаранне, і пакаціла мяне далей на веранду, пакінуўшы там аднаго пасярод пустой цёмнай прасторы. «Паспіш адну ноч тут!» Праз хвіліну вярнулася, памарудзіла, мабыць, чакала, што буду плакаць і прасіцца, але я маўчаў. І яна, накрыўшы мяне яшчэ адной коўдрай, сышла ўжо беззваротна.

Я застаўся адзін. Было і страшна, і цікава. Я прыслухоўваўся да гэтай цішыні і не адчуваў яе варожасці. Пачаў азірацца — і пашкадаваў, што яна не падвезла мяне да парэнчаў веранды. Адтуль было б бачна і неба з месяцам і



зоркамі, і жвіровая дарожка вакол будынка, і клумбы з кветкамі за ёй… Як туды пад'ехаць? Для гэтага трэба злезці з койкі. Але… Што можа тут зрабіць загіпсаванае дзіця з недаразвітымі цяглiцамі? З гэтай койкі я не злазіў ужо тры гады, у патрэбных выпадках мяне здымалі. І нават сам намер злезці ўспрымаўся ўжо як пасягненне на нешта забароненае. Акрамя таго, перакуліцца праз бакавіну койкі я мо й змог бы, але ж, падаючы на падлогу, нараблю грукату сваім гіпсам. І нават калі гэтага грукату не пачуюць, як потым залезці назад? Змерзнуць на падлозе і паклікаць на дапамогу? Гэтага вельмі не хацелася! І магло абярнуцца яшчэ большым пакараннем, хаця якое можа быць большае пакаранне — я не ведаў.

Але, як кажуць, вочы баяцца, а рукі й ногі робяць. Цікаўнасць пераважыла страх. Я вызваліўся з-пад коўдраў, падсунуўся да краю і пачаў рабіць упартыя спробы перакінуць загіпсаваную нагу праз жалезную бакавіну койкі. Стаміўшыся і не дасягнуўшы поспеху, спыніў спробы і задумаўся. Ідэя знайшлася. Я прыўзняўся на адной руцэ, а другой пазапіхаў пад крыжавіну скамечаныя коўдры. Так утварылася апора падважніка. Калі я, зморaны гэтай няпростай працай, апусціў плечы на ложак, нага задзірыста ўзнялася, і лёгкім паваротам я занёс яе над бакавіной. Асцярожна паварочваючыся далей, я змог заняць становішча ўпоперак койкі. Ногі віселі над падлогай, а рукамі я трымаўся за другую бакавіну. Адпусціць рукі — азначала нарабіць грукату і, магчыма, пабіцца самому. Гэтага не хацелася, але што рабіць далей, я не ведаў. Давялося вярнуцца назад і паўтарыць тое ж, толькі ўжо носам уніз. І не пасярод койкі, а каля яе спінкі. Трымаючыся за гэтую спінку, я пачаў павольна пасоўваць гіпсавае тулава праз бакавіну. Самым небяспечным было становішча, калі гіпсавая павязка канчалася і на жалязяку леглі б мае рэбры. Я разумеў, што рэбры трымаць маю загіпсаваную масу не змогуць, і тады трэба як найхутчэй саскочыць. Але лёгка сказаць «саскочыць». Я ссунуўся, здзіраючы скуру з грудзей, і калі ногі дасягнулі апоры, койка паехала на мяне — і я павіс на руках пад ёй у нахіленым стане.

Але гэта быў ужо вынік!

Я адпачываў на падлозе і шукаў план далейшых дзеянняў. Заняць вертыкальнае становішча каля няўстойлівай койкі было няпроста. І я папоўз па падлозе, пакідаючы за сабой белы гіпсавы след і падштурхоўваючы за сабой койку. Так мы разам з ёю дабраліся да парэнчаў, аздобленых кратамі з касых планак. Гэтыя краты дапамаглі мне падняцца і праз доўгую серыю розных спробаў забрацца зноў на койку. Я ляжаў і адпачываў, як чалавек, прыемна стомлены паспяховай працай. Працай, на якую я патраціў, мабыць, не адну гадзіну часу.

Уся санаторыя спала. Мне ж спаць не хацелася. Я ўглядваўся ў нязвыклыя і таямнічыя краявіды зорна-месячнай ночы, услухоўваўся ў яе дзівосныя гукі, успрымаў прыемна-прахалоднае казытанне ветрыка і пахі, якія ён мне даносіў. Потым пачаў, падцягваючыся за парэнчы, пераязджаць на новыя месцы. Койка паслухмяна кацілася, каткі ціха павісквалі. Мне захацелася хуткасці, і я пачаў штурхаць койку рэзкімі рыўкамі, пераязджаючы з аднаго канца веранды да другога. Маё задавальненне можа зразумець той, хто ўпершыню сеў за руль аўтамабіля ды імчыць па шырокай дарозе, націскаючы педаль газу. Накатаўшыся ўдосталь, я пад'ехаў да сходніка, які злучаў веранду з дарожкай, павярнуў на гэтую нахільную плоскасць і… доўга не рашаўся адпусціць рукі. Але ўсё ж адпусціў. Койка, набіраючы хуткасць з горкі, прашамацела каткамі па жвіру дарожкі і спынілася паміж клумбамі.

Вакол мяне былі кветкі, за імі шапацелі лістотай дрэвы, а наа-даа мнооой… О, нада мной была не белая столь палаты!.. Недзе далёка-далёка і ў той жа час зусім блізка — працягні руку й памацай! — нада мной было чорнае неба, усыпанае блёсткамі зорак. Яны падміргвалі мне! Мне! Мабыць, радаваліся, што я з імі. І, здаецца, нават звінелі. Так, зоркі звінелі-смяяліся, і я ўсміхаўся ім насустрач.

Я ўжо не помніў пра ложак, у якім ляжаў, не помніў пра санаторый, — я быў між зорак. Я лётаў між імі, я гуляў з імі, я размаўляў з імі…

Я спаў шчаслівым сном свабоднага чалавека.

ВЕРШЫ

# КАМЕНЬ І КАСА

Сяргей УКРАІНКА

* * *

*Прасую набожнік мамін:*
*паганскае сонца на белым*
*(васьмімітовы абрус!)...*
*Ты думала: Нехта явіць.*
*Ты ведала: Нехта правіць.*
*Ты бачыла: Нехта навіць.*
*Скажы мне нарэшце:*
*ён — хто?..*

* * *

*Дубцом дубовенькім,*
*дубцом выганяю сваю маладосць.*
*А яе не прагнаць жа, бедную:*
*Над возерцам маім*
*вечарве,*
*як ні ноч — мае сны падпільноўвае,*
*і ўсё шэпча мне (прыхаджанцу!)*
*пра вечнае.*

* * *

*Вылічыўшы працягласць імгнення,*
*хапнуўся за валасы…*
*Час, пачакай, калі ласка!*

* * *

*Сказала суцешным голасам:*
*«Маўчы, я табе ўжо не жонка.*



*Ды нават ужо і не сябар.*
*Я — твой нявечны анёл».*

* * *

*Камень.*
*Каса.*
*Мянташка —*
*наша з табою жыццё?*

* * *

*…Надзея выжыць спачыла ў бозе,*
*калі, падобна глухой сіяне,*
*усе тапельцы Святога возера*
*пасталі кругам вакол мяне.*

*Сутонне рэдзілі ўсцяж зарніцы.*
*Сіпелі гады ў гнілых лаўжах.*
*А я, самлелы, глядзеў дурніцаю*
*на ўцелянёны ў пачварах жах.*

*Ды ўсё ж ачуцца было мне суджана*
*расяным досвіткам. На траве.*
*З дзявочым голасам, што прастуджана*
*хрыпеў у хворай маёй галаве:*

*«Ты ж чуеш, дзядзька, мяне, вядома,*
*хоць розум твой і блукае дзесь.*
*Хай у змарнелай тваёй свядомасці*
*Умолле гэта не прападзе.*

*Ніхто не быў з нас раднёю Каіна —*
*не вінаватыя мы ні ў чым,*
*а толькі возера не адпускае нас,*
*хоць і завецца яно Святым.*

*Каб душы нашы знайшлі дарожачку*
*ці ў рай, ці ў пекла — Яму відней, —*
*ты памаліся за нас, нябожачкаў.*
*Ты памаліся.*
*Хаця б у сне».*

* * *

*Горад цярплівы*
*з душою самотнай жанчыны,*
*ты хоць пасмейся нарэшце з хлапца-дзівака:*
*ён жа цябе называе*
*«заўсёднай прычынаю»*
*бедаў,*
*якія ў няпростым жыцці напаткаў.*

*Ты выбачай,*
*што цікаўным расказвае з гонарам*
*казку*
*пра лёгкае шчасце ў «чужой» старане:*
*быццам не ён пераехаў на ціхую ўскраіну*
*горада,*
*а Магілёў адступіў,*
*бо не змог перасіліць…*
*(мяне).*

* * *

*Марыў пра Монтэ-Карла,*
*а жыву ў Монтэ-Крыста*
*і вязніцу прымаю*
*з будзённай пакорай,*
*бо душа, перацятая дротам сталістым,*
*патанула ў смузе*
*Герадотава мора.*

*Стыць бяздушным цяжэй,*
*чымся тлець бездухоўным —*
*той прывык абыходзіцца*
*чаркай ды шкваркай.*
*А вось бачыш, і мне*
*стала ўрэшце ўсё роўна,*
*хто сядзіць на плячы —*
*ці анёл, ці пачварка.*

* * *

*Учора галава мая сівая*
*у аднача̇ссе парусела зноў.*
*Не ведаў я раней, што так бывае,*
*хаця свет ясна-белы абжываю*
*даволі доўга — пяцьдзясят гадоў.*
*Ніхто з найблізкіх не ўздыхнуў у скрусе,*
*што я дасніў нарэшце кляты сон…*
*Убачыўшы крыжы над Беларуссю,*
*я, жахам набрыняўшы, не прачнуўся.*
*Затое стаў русявы, нібы лён.*

# НАША ГІСТОРЫЯ



## Іван АНОШКІН
## МАГІЛЁЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

( Працяг. Пачатак у № 1- 7 )

З аб'яднання «Прыдняпроўе» пайшлі ў мастацкую літаратуру Аркадзь Кандрусевіч, Апанас Палітыка і іншыя маладыя тады паэты і празаікі.

У красавіку 1960 года ў Магілёве было створана першае ў рэспубліцы абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў. Яго ўзначаліў Пятро Шасцерыкоў, добра вядомы як цікавы пісьменнік не толькі магіляўчанам. Калі над Беларуссю навісла навальнічная хмара гітлераўскага нашэсця, ён уступіў у камуністычны знішчальны батальён. Пасля вайны Пётр Паўлавіч вярнуўся на Магілёўшчыну, дзе пачаў працаваць журналістам. Ён парадаваў чытачоў не толькі нарысамі, але і аповесцю *«Камень за камнем»* аб аднаўленні роднага горада. Моладзі прысвечаны яго аповесці *«На всю жизнь»*, *«Солнечный луч»*, школьнікам — *«Звени, звонок!»*. Другім дапоўненым выданнем выпушчана кніга *«Солдатами были все»* — у літаратурным запісе Пятра Шасцерыкова ўспаміны ўдзельнікаў абароны Магілёва цяжкім летам 1941-га, антыфашысцкага падполля ў дні акупацыі і вызвалення горада ад гітлераўцаў. П. Шасцерыкоў шмат рабіў па выхаванню маладых пісьменікаў, дапамагаў пачаткоўцам.



Пятро Шасцерыкоў

Плённа працавалі ў абласным аддзяленні і пісьменнікі-франтавікі Анатоль Іваноў, Якуб Усікаў, Міхась Шумаў, Васіль Карпечанка, Мікола Лук'янаў.



Якуб Усікаў



Васіль Карпечанка

Міхась Шумаў

На Магілёўшчыне жылі і, здаецца, не так яшчэ даўно разам з намі працавалі ў абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў паэты Янка Непачаловіч і Віктар Хаўратовіч, празаік Мікола Герасімаў, крытык-літаратуразнаўца Аляксандр Макарэвіч. Кнігі — іх літаратурная спадчына — карыстаюцца заслужанай папулярнасцю.

З роднай Магілёўшчыны ў вялікі свет пайшлі вядомыя беларускія празаікі Іван Чыгрынаў, Павел Кавалёў, Анатоль Кудравец, Галіна Васілеўская...

(Заканчэнне будзе)

# Нарадзіліся ў верасні ...

( Заканчэнне. Пачатак на с.2 )



► 26 верасня 1788 года ў в.Гразівец Быхаўскага павета (цяпер Чавускі раён) ў сям'і беларускага святара нарадзіўся Іван Іванавіч НАСОВІЧ – літаратуразнавец, фалькларыст, лексікограф.

Атрымаў адукацыю ў Магілёўскай семінарыі, працаваў выкладчыкам у духоўных і дваранскіх вучэльнях розных гарадоў Заходняга краю. У 1844 годзе выйшаў у адстаўку і пасяліўся у горадзе Мсціславе. З 50-ых гадоў XIX стагоддзя пачалі друкавацца працы Насовічы па этнаграфіі – у 1870 годзе ў Санкт-Пецярбургу быў выдадзены *"Слоўнік беларускіх гаворак"*, над якім Насовічы працаваў 16 гадоў, і які атрымаў высокую ацэнку з боку знакамітых філолагаў. Затым былі выдадзены *"Зборнік беларускіх прыказак"* у двух тамах (1867 і 1869) і *"Зборнік беларускіх песень"* (1873 год). Этнаграфічныя працы Насовіча не мелі аналагаў на той момант, і па сённяшні дзень застаюцца каштоўным матэрыялам для даследчыкаў. Памёр І.Насовіч 25 ліпеня 1877 г.




*Наум САНДОМИРСКИЙ*

# Процесс с фрейдистской подоплекой

*Рассказ*

Мой бывший одноклассник "подзалетел". На юридическом языке – *"попытка к изнасилованию"*. Предполагаю: удайся она, не было бы и заявления в суд: "жертва" чуть ли не в три раза старше и опытней. Просто подойти хорошо не сумел.

Да и куда уж ему с его мозгами. В Горное училище на Украине поехал с девятого класса. И, пожалуй, правильно сделал. К тому моменту успехи в учебе были столь впечатляющи, что ни родители, ни школа не настаивали на дальнейшем образовании. А будь конкурс в ПТУ хотя бы чуть больше одного человека на место, то оно было бы явно не за "насильником".

Опустив все сопутствующие подробности, познакомлю в общих чертах с линией защиты. Её козыри – физиологические проблемы полового созревания и сравнительный анализ "насильника" с "жертвой". Через десятки лет импровизация прекрасного адвоката Арона Мееровича Райхмана – этакого провинциального Фёдора Плевако, на которого шли как на спектакль – вспоминается приблизительно так:

*– Гражданин прокурор, граждане судьи! Товарищи! И вы верите, что этот вчерашний пионэр мог плохо повлиять на честь женщины, дважды побывавшей замужем. Она его что, в домино пригласила поиграть? Или рассказать о независимости Египта под эгидой англичан? Так он об этом вряд ли знает.*

*Виды на будущий брак? Перестаньте меня смешить. Постоянный любовник? Из-за разницы в возрасте это так же смешно, как расческа для Котовского.*

*Она, видимо, думала, что перед ней сексуальная игрушка, но немножко переиграла. Устройство "игрушки" оказалось вполне взрослым. И когда юный кавалер повел себя не так, как ей хотелось, тогда она, видите ли, закричала. "Ой". Так я в это "ой" не верю. Ей, товарищи, не процесс не понравился, а его оформление. Но разве вам кто-нибудь сказал, что в горном училище учат светским манерам. А тем более тому, как должен вести себя шестнадцатилетний мальчик с сорокалетней женщиной. Так и хочется сказать с бабой, но что-то меня-таки удерживает от таких выражений.*

*В общем, прошу вас, гражданин прокурор, граждане судьи быть снисходительнее в отношении мальчика, чья жизнь только начинается.*

*Не утверждаю, что можем потерять будущего Стаханова. А если просто хорошего шахтёра? Особенно, когда державе так нужен уголь. И нужно ли после всего этого класть на весы судьбу юноши с одной стороны, а с другой – зрелой женщины. Я всё сказал и жду справедливости.*

Кто может дать гарантию, что так было слово в слова. Но за тональность и общий смысл ручаюсь. Как и за то, что мой половозрелый одноклассник хоть и здорово испугался собственной прыти, был оправдан. И в смысле шахтёрства Арон Меерович угадал.

http://www.hot.ee/glusk/

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. моб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 30.09.2012 г.. 21.00.
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.